Opłata pocztowa opłacona ryczałtem. Цана асобнага нумару 25 грошай.

№ 32. Вільня, 31 кастрычніка 1927 году. Год I.

# БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ



| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: | Падпісная цана: | Цана абвестак: |
|---|---|---|
| Wilno (Вільня), Ціхая вуліца № 4, (альбо Міцкевіча № 15) кват. № 20. Тэлефон № 1207. | На 1 месяц—1 зл., на 3 месяцы—3 зл., на паўгода — 5 зл. і на год — 9 зл. Заграніцу ўдвая даражэй. | За цэлую апошнюю старонку—120 зл., за $1/2$ — 65, за $1/4$—35, за $1/8$—20 зл. За мілімэтравы радок перад тэкстам 25 гр., у тэксьце 30 гр. і за тэкстам 10 гр. |

**Прэзыдыум Выканаўчага Камітэту,** выбраны на першай конфэрэнцыі прыхільнікаў „Б. Д.“ гэтым даводзіць да агульнага ведама, што рэзалюцыі, прынятыя на конфэрэнцыі, будуць апублікованы ў наступных нумарох „Б. Д.“ пасьля іх апрацоўкі рэдакцыйнай калегіяй.

## Перад выбарамі ў Сойм.

Праз месяц стары польскі Сойм, Сойм партыйнае інтрыгі і нацыянальнае грызьні канчаець сваё бясслаўнае жыцьцё.

За пяць гадоў свае працы гэты Сойм амаль нічога не зрабіў для палепшаньня дзяржаўнага жыцьця Польшчы, а за апошнія два гады і асабліва пасьля маёвага перавароту быў, проста кажучы, балястам і перашкодаю для ажыцьцяўленьня насьпеўшых патрэбных рэформаў.

У сэнсе свае нацыянальнае палітыкі гэты Сойм „праславіўся“ прыняцьцем недарэчных законаў 31 ліпня 1924 г. аб мове ў школах, судзе і канцэлярыях, які ня толькі ня спрыяў узнаўленьню нармальных адносін паміж народамі Польшчы, але ў некаторых выпадках нават пагоршыў іх, дразьнячы нацыянальныя, шовіністычныя настроі.

Агулам кажучы, стары Сойм, дзякуючы шмат якім прычынам, быў бясьсільным штонібудзь позытыўнае зрабіць для народу, і адгэтуль яго непапулярнасьць, яго бясслаўнасьць, якую ён набыў асабліва дзякуючы сваёй варожай пазыцыі для Маршалка Пілсудскага і яго ўраду.

Шырокія народныя масы, незалежна ад нацыянальнасьці і стану, з пачуцьцём палёгкі прымуць факт сьмерці старога Сойму, які адыходзіць у гісторыю, як першая няўдалая спроба ўвядзеньня ў Польшчы парлямэнтарнага ладу.

Урад Маршалка Пілсудскага, які зьяўляецца можа найвялікшым праціўнікам старога Сойму і яго звычаяў, аднак не зрабіў з гэтае няўдалае спробы дэмакратычнага парлямэнтарызму таго вываду, што дэмакратычны лад у Польшчы мусіць быць зьменены ці то ў кірунку дыктатуры, ці то ў кірунку абмежаваньня выбарных правоў, як гэта радзілі і радзяць бяз устанку правыя польскія партыі.

Зьяўляючыся насіцелем дэмакратычнае ідэі, ён пакінуў у поўнай сіле аснаўны закон Рэспублікі, які гаворыць аб агульным і роўным выбарным праве ўсіх грамадзян

бяз розьніцы нацыянальнасьці, вызнаньня і стану. І вось мы стаім ізноў перад выбарамі, якія на нейкі час перарвуць нармальнае жыцьцё краю і захопяць масы ў вір агітацыі, дэмагогіі, розных абяцанак і г. д. і г. д.

Якую-ж галоўную задачу павінны паставіць сабе беларусы для выпаўненьня пры гэтых надыходзячых выбарах, якую пазыцыю павінны заняць?!

Зьяўляючыся народам дэмакратычна настроеным, беларусы бязумоўна ня могуць стаць на грунт паменшаньня правоў дэмакратычных інстытуцыяў. Побач з лёзунгам— моцны ўрад, — які зьяўляецца сягоньня папулярным у пэўных колах, — беларускія дэмакраты павінны сказаць, што добра мець побач моцнага дэмакратычнага ўраду так сама моцны дэмакратычны парлямэнт, з якога ўрад мог-бы чэрпаць сабе сілы, такі моцны парлямэнт, які меў-бы ідэю і ведаў, чаго ён хоча і куды ідзе.

Значыць пастолькі, пасколькі гэта залежыць ад выбаршчыкаў-беларусаў, — у новы польскі Сойм трэба паслаць людзей з тварам, людзей сталых, разумных, аўтарытэтных. Другое — людзі гэныя павінны быць не дэмагогамі, якія гатовы наабяцаць і мех і торбу, а людзьмі рэальна думаючымі, людзьмі, якія добра орыентуюцца ў укладзе рэальных сілаў у краі і па-за ім. Інакшай кажучы, паслы нашыя павінны быць мудрымі рэальнымі палітыкамі. Трэцяе, разброд партыйны, які перажываюць сягоньня беларусы, можа вельмі значна пашкодзіць беларускаму выбаршчыку. Дык трэба змусіць „гэнэралаў", якія сварацца, адыйсьці ў бок і стварыць агульны нацыянальны беларускі фронт на падставе ажыцьцяўленьня мінімуму беларускае нацыянальнае праграмы.

Ня ведама, як думаюць іншыя беларускія групы наконта гэтага рэальнага мінімуму, гэтае пляцформы, якая магла-б злучыць усіх навакол аднаго.

Калі судзіць па тых настроях, якія выявіліся на конфэрэнцыі прыхільнікаў „Бел. Дня" 25/X, якая аб выбарах зусім не гаварыла, — найбольш папулярным у народных масах быў-бы лёзунг *аўтаноміі беларускіх земляў*.

*За аўтаномію!* вось праўдзівы рэальны лёзунг, пад якім, па нашай думцы, павінны

---

# БІЛЕТ.*)

## II.

— Пэўнага дня, ў нядзелю, мой знаёмы Р. і я, зайшлі ў сабор; быў марозны дзень і сьцюжа павашна шчыпала за нос і шчокі дый вушы мае зусім не бараніў мой студэнцкі брыль. Мяне ня можна было залічыць да набожных, але прывычка дзіцячых гадоў, калі кожную нядзелю я хадзіў з маткай у царкву, сказвалася часам пацягам зайсьці ў сабор. Ужо даўно хадзіў я ў царкву, як у клюб, дзе можна было паслухаць прыгожага пяяньня і набрацца настрою, поўнага спакою і ціхае надзеі. Гэным разам спакой ня зыходзіў на мяне, пад стройнае пяяньне прабуджалася паволі маё заснуўшае сумленьне, ў душу ўкраўся грызьлівы неспакой, які адчуваецца перад вялікаю няпрыемнасьцю. Я прысланіўся да колённы і залятуцеўся... Праз увесь час адчуваў я з левага боку нечы пільны пагляд, нехта глядзеў на мяне; паволі павярнуў я голаў і сустрэўся з чорнымі праменнымі зрэнкамі маладой прыгожай жанчыны. Яна стаяла на жаночым баку і глядзела ўпорчыва проста на мяне. Высокая, стройная, апранутая ўва ўсё чорнае, і чорны доўгі жалобны крэп рассыпаўся прыгожымі складкамі па яе плячох. Пры спатканьні з яе вачыма, быццам агонь прабег па мне, мы ўраз адвярнуліся і ўсяго толькі я усьпеў заўважыць; я прастаяў усю службу пры колённе, баючыся павярнуць голаў, а калі, пры канцы адважыўся я павярнуцца ў жаночы бок, дык мае незнаёмкі ўжо ня было... Я пакінуў у гэты дзень царкву апошні, і, як мне здавалася, нават царкоўны стараста, асабліва паглядзеў на мяне; да позьняе ночы прахадзіў я па вуліцах, сам сабе не аддаючы адчоту, чаго, як-бы нечага, шукаючы, толькі ўночы, а першай гадзіне, вярнуўся я да хаты і тады толькі ўспомніў, што ня быў на абедзе ў Хрызановічаў, забыўся што яшчэ некуды меўся зайсьці, абяцаючы быць і абавязкава і там і ў Калівіных увечары.—„Гм! гм!"—думаў я, прыпамінаючы ці не захварэў я? Памацаўшы свой нармальны пульс і зьмерыўшы нармальную тэмпэратуру, я разьдзеўся і лёг спаць. Хацелася спаткаць ізноў тую красуню, гаварыць з ёю, быць блізкім, дарагім для яе, доўга яшчэ, заплюшчыўшы вочы, я сіліўся заснуць; замест сну, ўставаў перада мною абраз прыгожае жанчыны. Не памятую, як я заснуў. Прабудзіўшыся назаўтра а дзесятай гадзіне, я, як мага, пабег да Хрызановічаў. Пачалася звычайная цэрамонія, я прасіў прабачэньня, тлумачыўся нечаканымі, першачарговымі важнасьці, справамі, якія спалі мне, як сьнег на голаў, чатыры-ж дачкі ўраз з паважанаю, ў тры абхопы мамаю, хорам папракалі мяне і стыдзілі, і толькі тады, калі я зрабіў міну зусім засаромленага чалавека, я адтрымаў поўнае прабачэньне і меў можнасьць, усеўшыся на канапе, залажыўшы нагу за нагу, расказаць ім аб сваім учараш-

*) Гл. „Б. Д." № 31.

беларусы шыкавацца да новых выбараў, бо гэты лёзунг знайдзець папулярнасьць ня толькі сярод беларусаў, але і сярод усяго грамадзянства нашага краю.

Аўтаномія—гэта ключ для разьвязаньня ўсіх заблутаных вузлоў, гэта ключ ня толькі гаспадарчага адраджэньня, але і агульна культурнага ўсіх нацыянальнасьцяў нашага краю. Вось чаму, думаючы аб пазыцыі беларусаў падчас выбараў, у першаю чаргу мы высоўваем думку *аб аўтаноміі.*

## Конфэрэнцыя корэспондэнтаў і актыўных прыхільнікаў „Бел. Дня“.

25 кастрычніка с. г., ў памешканьні Рэдакцыі, адбылася Конфэрэнцыя корэспондэнтаў і актыўных прыхільнікаў „Беларускага Дня“. Паміж сяброў конфэрэнцыі мы бачылі і нашых маладых, беларускіх песьняроў, А. Бартуля і М. Васілька, нашага зусім яшчэ маладога, толькі што пачынаючага, пісьменьніка Сяргея Белайца; корэспондэнта „Бел. Дня“ у галіне гаспадарчых парадаў Янку Тарыкова, бліжэйшых супрацоўнікаў Рэдакцыі „Бел. Дня“, у склад якіх уваходзіць гурток студэнцкай моладзі і шмат іншых корэспондэнтаў і чытачоў „Бел. Дня“ з усіх куткоў нашае зямелькі.

Што датычыць да соцыяльнага падзелу сяброў конфэрэнцыі, то гэта ўсё былі інтэлігэнты і паўінтэлігэнты, цесна зьвязаныя з вёскай, альбо выйшаўшыя з яе, і — сяляне. Наагул конфэрэнцыя рабіла ўражаньне гуртка людзей, поўных энэргіі, зьвязаных ужо супольнай ідэяй неабходнасьці рэальнай творчай працы для падняцьця культурнага і эканамічнага стану нашай вёскі і шукаючых толькі арганізованых формаў для рэалізацыі гэтае ідэі.

Але вярнемся да самай конфэрэнцыі. Пасьля прывітаньня рэдактарам „Бел. Дня“ сяброў конфэрэнцыі і выбару прэзыдыуму, рэдактар Умястоўскі зрабіў даклад аб ідэолёгіі "Бел. Дня". Даклад гэны, выказаны ў прыгожай беларускай мове, з вялікім красамоўным талентам, зрабіў на ўсіх прысутных вялікае ўражаньне.

У першай частцы свайго дакладу рэд. Умястоўскі падкрэсьліў, што ідэолёгія „Бел. Дня“ ня новая. Яна зьяўляецца працягам ідэолёгіі „Нашае Долі“, выходзіўшай у 1906 годзе ў Вільні, фактычным рэдактарам каторай быў ён.

Пуцяводнай зоркай працы людзей, згуртованых каля „Нашае Долі“, было паляпшэньне долі нашых бедных сярмяжных братоў. Галоўнага вінавайцу нядолі нашага гароднага сялянства яны бачылі ў маскоўскім самадзяржаўі. „Далоў самадзяржаўе і хай жыве дэмакратычная рэспубліка!“ — вось лёзунгі, калі ня кіданыя нашадольцамі на старонках сваё часопісі, дзеля цэнзурных варункаў, то глыбока гадованыя ў іх душах. Што датычыць лёзунгаў соцыяльных, то галоўным з іх быў — Зямля бяз выкупу для тых, хто на ёй сам працуе.

У галіне нацыянальнай „Наша Доля“ стаяла на грунце патрэбы навукі і прасьветы ў мове сваіх бацькоў. „Наша Доля“ стаяла на грунце

---

нім спатканьні ў саборы. Перабралі ўсіх знаёмых, якіх я і сам добра ведаў, але такой красуні знайсьці не маглі: ў тэй усю справу нос папсаваў, у тэй валасы, у тэй фігура з дэфэктамі, у тэй ногі крывыя... у кожнай была свая вада, мая ж красуня была бяз вадаў. З мяне паблажліва падсьмейваліся, што я закахаўся ў... мяшчаначцы. Цэлымі днямі тое спатканьне не давала мне спакою, і я больш нічога ўжо не хацеў, як толькі яшчэ раз спаткацца з ёю. Майму хаценьню суджана было збыцца. Раз увечары я зьбіраўся з Мазухінымі ў тэатр, але стары Мазухін захварэў і я зайшоўся да Р., таго самага, каторы быў са мной у царкве і каторы, — я забыўся вам сказаць, — ня мог мне памагчы, бо з маіх апісаў ніяк ня мог пазнаць падобнай асобы.

Ён ахвотна згадзіўся пайсьці... Мы падышлі да касы, і я фармальна астаўпеў.

За крэслам касіеркі стаяла тая самая жанчына, каторую я спаткаў у царкве і нешта дзелавіта і паважна разважала з маленькім і акладзістым дырэктарам трупы.

Зьбіваючыся і заікаючыся, папрасіў я білет, уляпіўшы свае вочы ў яе; яна сама вырвала білет з кніжкі і падала мне; я ледзь чутна падзякаваў і адышоў.

— Хто гэта жанчына ў жалобе? — спытаў я ў Р., седзячы ўжо ў крэслах.

— Як? ты ня знаеш? Яна-ж табе сама білет падала. Ну, брат, паводзіцца табе—гэта ўдава пасьля інжынера К. Мі-і-льянэрка! Паміж іншым, субсыдуе трупу тутэйшага тэатру. Фі-і-ліянтропка! Але гэта, брат, штучка. Сам пазнаеш! — засыпаў мяне Р. сваімі кароткімі зданьнямі. Апошняе слова „штучка“ моцна засела мне ў голаў, але мне не хацелася распытваць больш у Р., я не хацеў выдаць свае тайны.

Пасьля тэатру, мы паволі, спацыруючы, пасоўваліся ў бок дому.

— Цікавіць цябе гэтая ўдоўка? — салодзенька ўсьмяхаючыся масьлянымі прышчуранымі вочкамі, пытаўся Р. — Так, брат, варта ёю цікавіцца, але вось бяда, яна нікім доўга ня цікавіцца. Эксцэнтрычная баба і шалапутная. Хто ўпадзець у вока, амаль як халуя, запросіць да сябе... а там глядзіш, брат, і адстаўка, праз некалькі месяцаў. Хай буду я кепскім пракорам, калі не твая калейка настае. Та а-ак? У-у-укаціце за граніцу, што і гаварыць укаціце, а палкоўніку гэнэральнага штабу, цяперашняму яе абаронцы, адстаўка. Гатова да дуэлі дайсьці. О, брат, гэта атлет...

Ён доўга яшчэ сыпаў нават больш колкія і вострыя слоўцы. Усім добра ведамы быў язык Р., былі выпадкі, што нават добра лупцавалі яго за язык, але спыніць яго, пакуль не нагаворыцца, не маглі ніякія сілы. Я гатоў быў кінуцца на Р. з кулакамі, (не за сябе пэўна-ж!), але, добра ведаючы яго з апавяданьняў, маўчаў, стараючыся ня слухаць і ня чуць яго дамовак.

Пасьля разьвітаньня з Р., мой рамантычна-оптымістычны настрой пачаў узмагацца, быццам радасны ўздойм уздымаў мяне на вяршыны чала-

згоднага супрацоўніцтва ўсіх народаў нашага краю, на ніве культурнага і гаспадарчага адраджэньня і вяла востраe змаганьне з нацыянальнымі шовінізмамі, якія заўсягды выкарыстоўвала рэакцыя для сваіх брудных мэтаў.

Ідэя „Нашае Долі" была ідэяй творчай і дзеля гэтага спаткала спачуцьцё ўсяго дэмакратычнага грамадзянства нашага краю.

— І вось цяпер, — казаў прамоўца,—пасьля дваццацёх год, пасьля сусьветнае вайны, пасьля ўсіх тых перамен, якія зрабіліся ў жыцьці народаў, ідэолёгія „Нашае Долі" зьяўляецца зноў актуальнай і місію рэалізацыі яе ў новых абставінах прыняў на сябе гурток людзей, сабраных каля „Беларускага Дня".

Паляпшэньне долі нашых сярмяжных братоў, падняцьце іх дабрабыту, пашырэньне нацыянальнае сьвядомасьці беларускага народу, згоднае супрацоўніцтва ўсіх народаў нашага краю, змаганьне за ідэю дэмакратычна-рэспубліканскага ладу проці ідэі чырвонай маскоўскай дыктатуры, барацьба з нацыянальнымі шовінізмамі народаў, засяляючых нашу старонку, вось пуцяводныя думкі „Бел. Дня".

Лёзунг „Нашае Долі": зямля бяз выкупу для тых, хто на ёй працуе, зьяўляецца так сама і лёзунгам „Бел. Дня".

Бліжэй прамоўца затрымаўся на найбольш актуальнай цяпер справе адносін паміж польскім і беларускім грамадзянствам нашага краю.

Пры нацыянальнай грызьні немагчыма творчая праца над культурным і гаспадарчым адраджэньнем нашага краю. І вось, задачай кожнага разумнага беларускага палітыка павінна быць шуканьне шляхоў згоднага сужыцьця і супрацоўніцтва ўсіх народаў нашага краю.

Прыхільнасьць іншых народаў можна здабыць рэальным укладам адносін паміж беларусамі і гэнымі народамі. Беларускі народ раз на заўсягды павінен асудзіць тактыку нацыянальнага байкоту, павінен на практыцы паказаць, што ён хоча і патрапіць працаваць з імі, што патрапіць шанаваць іх нацыянальную культуру.

Найбольшае, пасьля беларусаў, значэньне па ліку і як творчая культурная і эканамічная сіла ў нашым краі мае польскае мясцовае грамадзянства, разам з беларускім народам з дзядоў - прадзедаў засяляючае абшары беларускай зямлі. Грамадзянства гэнае моцна зьвязана з Беларускім народам вузамі эканамічнага і супольнага гістарычнага прошлага. Грамадзянства гэнае па псыхіцы сваёй — гэта-ж „тутэйшыя" людзі і толькі культурай сваёю і ідэяй польскай незалежнасьці зьвязана з польскай дзяржавай.

Здабыць гэныя сілы для ідэі адраджэньня беларускага народу зьяўляецца неадкладнай задачай кожнага разумнага беларускага палітыка.

Вялікую памылку робяць тыя беларускія і польскія палітыкі, якія хочуць выкапаць прорву паміж беларусамі і палякамі і зрабіць непраходным той адзіны шлях, які вядзе да згоднага сужыцьця гэных двох народаў у межах Польскае дзяржавы.

Нажаль, шмат зроблена з абодвух бокаў памылак і трэба вялікага высілку волі і згоднай працы дэмакратыяў абодвух народаў, каб гэныя памылкі паправіць. Маёвы пераварот, як трыумф і ўзмацаваньне польскае дэмакратыі, дае вялікую надзею на тое, што прорва гэная будзе закопана.

Далей прамоўца бліжэй затрымаўся на справе зямельнай рэформы, кажучы, што вырашэньне зямельнае справы павінна ісьці шляхам стварэнь-

---

вечага жыцьця. Мне горка і крыўдна было за словы Р. Назаўтра, памятаю, як цяпер, мне далажылі, што да мяне прышоў пасланец. Я сказаў прасіць. Перада мной прадстаў маленькі казачок, падаў мне канвэрт і адышоў. Сіняватае палатно канвэрту і чырвоныя пячаці на ім досі харошы мелі выгляд; я разглядзеў іх, узяў ножнічкі і абрэзаў краі. Стуль выпалі дзьве паперкі, я надняў іх; адна з іх аказалася візытнай карточкай; на ёй стаяла: „М. К. удава па інжынеры К., уроджаная М. Ф."; другая аказалася білетам у ложу ў тэатр, на тагодняшні вечар.

Уся кроў кінулася мне ў галаву, усе словы Р. грымелі ў маіх вушох; я на ўсю моц пазваніў раз і другі, да мяне з пытлівым тварам убег лёкай.— Чый гэта казачок прыходзіў?—спытаўся я.—М. К., удавы па інжынеры К., — адрапартаваў лёкай.

— Пашоў вон! В-о-о-он!—зароў я, як шалёны. Перапалоханы лёкай выбег.

Прызнацца вам, я быў агарошаны падобным зваротам так рамантычнае справы, але праз некалькі гадзін уся мая развага вярнулася да мяне. Я ашукаўся і балюча ашукаўся,—але добра яшчэ, што так скончылася, — разважаў я, адначасна востраe жаданьне помсты радзілася ўва мне, і я ўпаў на нечаканую концэпцыю.

У кожным месьце, сярод інтэлігэнцыі, ёсьць хоць адзін чалавек, які нічым не займаецца, а, лепш сказаць, займаецца ўсімі мастацтвамі. Ніхто яго не шануе, кожны амаль не з агідаю гаворыць аб ім, але дзе ён зьявіцца, там прымаюць яго з прыемнымі ўсьмешкамі, бо баяцца скандалу. Быў у той час і ў Берасьці добра ўсім знаны Міша. Ніхто ня знаў і ня цікавіўся, як яго прозьвішча, бо для ўсіх гэта быў проста Міша. Гэта быў неацэнены малады чалавек. Праўда ён умеў зайсьці няпрошаны ў абед і дачакацца яго, седзячы і плятучы ўсялякую бессэнсоўнасьць, таксама няпрошаны зьяўляўся ён на вечарынкі нават хатнія, на балёх ён быў на ўсіх і заўсёды, хоць яго ніколі ніхто не прасіў, але затое ён аказваў берасьцейскаму грамадзянству неацэненыя паслугі. Калі, напрыклад, спатрэбілася Вам каго абабіць, — ідзеце да Мішы: дзесяць рублёў і назаўтра грамадзянін Х бяжыць абабіты, з крыкамі па вуліцах. Зрабіць скандал каштавала пяць рублёў, ён гандляваў забароненымі мэдыкамэнтамі і гэтак далей і гэтак далей. Адным словам, усё можна было праз яго зрабіць і на ўсё была такса і цьвёрдыя, традыцыйныя цэны.

На гэты раз і я выправіўся проста да Мішы. Ён ляжаў на ложку ў нумары N-скага бруднага готэлю і займаўся тым, што сіліўся плявком папасьці на муху якая, раз за разам, прысядала на сьцяне. Пры маім зьяўленьні ён плюнуў яшчэ раз — апошні — на муху, ўстаў і запрапанаваў мне сесьці. Адчуваючы гадлівасьць, прысеў я на кромку крэсла і расказаў яму ўсё ад пачатку, тоячы пэўна, што я сам амаль не закахаўся і, перадаючы яму візытоўку і білет у ложу, запрапанаваў яму пайсьці па гэтым білеце ў тэатр. Ён круціў у руках білет і картачку, на білеце жа

ня тыпу найбольш прадукцыйнай сельскай гаспадаркі, за які прамоўца лічыць хутарную дробную сельскую гаспадарку.

Зямлю, патрэбную на ажыцяўленьне зямельнае рэформы, сялянства павінна дастаць бяз выкупу. Для рэалізацыі ідэяў „Бел. Дня" прамоўца лічыць неабходным здабыцьце для нашага краю аўтаноміі, якая дала-б магчымасьць тут на месцы вырашаць усе балючыя справы ў галіне культурна-нацыянальнай і гаспадарчай.

Даклад рэдактара Ўмястоўскага, спатканы з боку сяброў конфэрэнцыі вельмі прыхільна, ня выклікаў у часе дыскусіі прынцыповых закідаў.

Грамадзянін Цяўлоўскі, зьвярнуў увагу, што „Бел. Дзень" у праграму свае працы павінен паставіць так сама і барацьбу з вельмі шкадлівым для беларускага народу рэлігійным фанатызмам, які сеець нязгоду паміж беларусамі праваслаўнымі і каталікамі, а таксама на тое, што „Беларускі Дзень" павінен дамагацца для беларусаў дадатковага набажэнства ў беларускай мове.

Увага гэная, зусім слушная, была падтрымана ўсей конфэрэнцыяй.

Конфэрэнцыя скончылася ў той самы дзень 25 кастрычніка позна ўночы, пакідаючы пасьля сябе выканаўчы камітэт у складзе 9 асоб, які павінен апрацаваць усе матар'ялы для зьезду і назначыць дзень яго.

Конфэрэнцыя прайшла вельмі паважна, выклікаўшы вялікую зацікаўленасьць сяброў яе да парушаных на конфэрэнцыі справаў.

Сябры корфэрэнцыі разьехаліся, яшчэ мацней зьвязаныя з „Беларускім Днём" ідэяй рэальнай творчай працы. І застаецца толькі шкадаваць, што дзеля прычын чыста тэхнічнага характару з 70 асоб выявіўшых жаданьне прыняць удзел у працах конфэрэнцыі, Рэдакцыя мела магчымасьць запрасіць на зьезд толькі 42 асобы, з каторых, дзеля недахвату грошай на дарогу, 11 не маглі прыехаць. *В. М.*

## Ад рэдакцыі.

Рэдакцыя і Адміністрацыя „Бел. Дня" адтрымлівае шмат пісьмаў, на якія аўторы іх просяць адказваць праз пошту. Ня маючы магчымасьці гэтага зрабіць, Рэдакцыя паведамляе, што здаваляць гэткія просьбы будзе толькі ў вынятковых выпадках, даючы адказы на пісьмы ў сваёй „Паштовай скрынцы". Ня маючы магчымасьці, дзякуючы вялікаму наплыву пісьмаў з просьбамі аб прысылцы пробных нумароў газэты „Б. Дзень" і аб няспыненьні высылкі газэты тым, хто цяперака ня мог яшчэ выслаць падпісных грошай, адказаць кожнаму паасобна, Рэдакцыя гэным паведамляе, што ўсе гэткія просьбы Рэдакцыяй здаволены, і калі газэта „Бел. Дзень" ня прыходзіць, просім паведаміць нас.

---

ноцкаю рукою выпісаныя стаялі маленькія літары „М. К."

— Так!—сказаў Міша з жарам, разглядзеўшы білет.—Пайду, дальбог пайду, у разе ўдачы я-ж буду тысячнік-багатыр, але на ўсялякі выпадак дайце дзесяць рублёў. Я даў яму грошы і вышаў...

Здаволены вяртаўся я да хаты, скандал і розгалас скандалу быў загарантованы. Я шыбка пачаў укладваць свае чэмаданы і распарадзіўся нікога ня прымаць...

Каля адзінаццатае гадзіны ўночы я пачуў крыкі — нехта ваўтузіўся ў калідоры з лёкаём; я прыслухаўся і пачуў, як лёкай крычаў:

— Сказана нікога ня прымаць і канец на тым! — і ў той-жа момант уляцеў да мяне растропаны Міша. Я адаслаў лёкая на калідор, а сам зацікаўлены спытаў: — Ну, што? — Вось што! — нездаволены пачаў Міша, — прыадзеўся, надушыўся, купіў цукерак і пашоў, прыходжу да кантролю. Кантроль з асобнаю пашанаю вядзець мяне ў лёжу. Сяджу сабе адзін у лёжы. Ня прыходзіць ніхто... Прайшла адна адслона і другая. Нікога няма. Толькі пачалася трэцяя адслона, чую нехта ідзець, бабі шаг на калідоры чую. Уваходзіць разадзетая. Тыц! Каля мяне і села ў крэсла. Я да яе. Прадстаўляюся. А яна калі вылупіць вочы, ды: — „Вы як сюды трапілі? Выходзьце вон!".

— Я, —кажу,—па вашым білеце сюды папаў,— і паказваю ёй здалёк білет, каб ня вырвала. А яна: — „Дзе вы яго ўкралі?"—ды ў крык. Я яе трактаваць цукеркамі, а яна калі жбурнець іх, так на галавы ў рады і пасыпаліся. Я яе ўгаварваць, а яна лёкаёў клікаць. Прыбеглі.—Выставіць яго! — пішчыць аж трасецца. Я крычу, што я білет маю, нічога ня слухаюць. Мяне ў карак ды на вуліцу.

Я пакаціўся на канапу ад сьмеху.

— Што? і вы яшчэ сьмяецеся, — закіпеў Міша, — Давайце пяць рублёў за абразу.

Я схапіў першую, папаўшую да рук, паперку-трохрублёўку:—Маеце тры рублі і выбірайцеся!

— Малавата, — сказаў Міша, — ну, але пабягу да Мазухіных, у іх сягоньня прошаны вечар, раскажу ім усё па парадку.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

А першай гадзіне ўночы, цягнік шыбка вёз мяне ў кірунку Масквы"...

---

У гэты момант цягнік, у каторым еxаў я і мой расказчык, затрымаўся: „Л-л-ліда! Пастой дзесяць мінут!" — пачуўся голас кандуктара.

Мой расказчык перарваў расказ, я бачыў, што яго настрой прайшоў, і яму цяпер сорамна было за мінуты шчырасьці перад незнаёмым чалавекам. — „Я тут, — сказаў неахвотна ён мне,— мушу перасесьці". Не разьвітаўшыся ён выйшаў. Я стаў пры вакне так, што мяне ня можна было бачыць з пляцформы, і бачыў, як мой незнаёмца сеў у гэты самы цягнік, толькі ў другі вагон. Я бачыў, як ён нясьмела аглядаўся, ці я ня бачыў яго і ўвесь твар яго, здавалася казаў:—„Ну, і цягнуў-жа мяне чорт за язык".

Канец. **Язэп Паляшчук.**

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

## Вымярзаньне азімых.

Да апошняга часу панавала думка, што азімыя вымярзаюць, аднак выраз гэты ня зусім правідловы. Так часта, напрыклад, можна заўважыць, што адна палавіна поля вымерзла, а другая засталася непашкоджаная. Часта здараецца, напрыклад, што азімыя фактычна выправаюць пад сьнегам, але гэта тады, калі сьнег падае не на замёрзлую зямлю.

Але вельмі часта завуць выправаньнем і вымярзаньне. Ужо даўно было заўважана, што азімыя на большых палёх у дварох менш вымярзаюць, як у сельскіх дробных гаспадарках. Галоўная прычына вымярзаньня, як паказалі новыя досьледы, залежыць толькі часьцінаю ад марозу, галоўная-ж віна звычайна бывае ў самым гаспадары. Калі глыбока пасеяць зярняты азімых, а пасьля прыйдуць маразы, то замярзае ў першую чаргу паверх грунту, які курчыцца ад марозу і, займаючы больш прастору, разрывае карэньне. Калі-ж карэньне парвецца, то зусім зразумела, што расьліна тады гіне. Зусім ня тое бачым, калі насеньня не заганяем глыбока ў зямлю, а толькі лёгка прыкрываем зямлёю. Тады расьліна пускае карэньне няглыбока і калі пад уплывам марозу пасьля зямля падымаецца, то з ёю падымаецца разам і расьліна. Вось-жа тут у гэным выпадку мароз так ня шкодзіць, бо сама расьліна марозу не баіцца. Цяпер вось і зусім зразумела, чаму ў большых гаспадарках, дзе сеюць сеялкаю, там азімыя ня так вымярзаюць. Сеялкаю не заганяюцца зярняты глыбока, і цераз гэта азімыя ня так вымярзаюць. Там селянін трохі пабаранує і сее. Адно зярня ўпадзе на паверх, другое ў ямку глыбока.

Тады селянін старанна баранує, каб усе зярняты прыкрыць зямлёю, і такім чынам многа зярнят заходзіць глыбока ў грунт, якія пасьля і пушчаюць даўгія карэньні.

Гэтыя расьліны ў часе марозу хутка разрываюць карэньне і адміраюць.

Бачым мы на гэтым прыкладзе, якое вялікае значэньне мае ў гаспадарцы сеялка. Калі сеем рукою, то трэба старацца, каб усе зярняты прышлі на аднальковую глыбіню.

Фабрыкі сеялак робяць цяпер такія малыя лямешыкі, каб разгартаць зямлю, ні вострыя ні тупыя, а ззаду за лемяшамі ідуць такія загорткі, якія пасьля акуратна прысыпаюць зярняты зямлёю. Часта яшчэ азімыя вымярзаюць і з іншых прычын. Напрыклад, калі зімою часта бывае то адліга, то ізноў мароз, дык пры марозе зямля ўздуваецца, а пры адлізе ападае і расьліна гэткім чынам вырываецца з зямлі, і часта можна заўважыць, як расьліна зусім выцягнецца з зямлі і пасьля, як высахнуць карэньні, расьліна гіне. (Ведама таксама, што карэньням шкодзіць і сьвятло). Гэтаму можна памагчы толькі тым, што ніколі не вырабляем увосень поля бараною вельмі добра, а трэба, каб поле заставалася ў большых грудках. Пасьля, як прыйдзе мароз, то ён сам разаб'е гэтыя грудкі, яны рассыплюцца і закрыюць карэньні тых расьлін, што павылазілі з зямлі ад марозу.

Вось чаму прапануецца ніколі не баранаваць поля ўвосень вельмі добра, а так, каб заставаліся большыя грудкі, якія пасьля мароз сам раскрышыць.

Калі-ж выбарануем поле вельмі добра, то пасьля на вясну будзе яно гладкае, як падлога і калі пойдзе пасьля вялікі дождж, то зямля зусім саб'ецца, вытварыцца кара, якая забароніць пранікаць у грунт паветру і расьліны гэткім чынам задушацца.

*П.*

## Лёгкі і хуткі спосаб зьнішчэньня карчоў па вырубаным лесе.

Спосаб хуткага і лёгкага зьнішчэньня карчоў па вырубаным лесе ў нас, здаецца, ёсьць яшчэ нідзе непрактыкованы. Па розных кутох нашай Бацькаўшчыны можна пачуць нешта падобнае на баязьнь у сэнсе набыцьця з-пад лесу зямлі.

Падумаеш, і праўда. Боязна ўзяцца за распашку зямлі з-пад толькі што зьнятага лесу. Але, калі-б мы ведалі, як робяць з карчамі людзі іншых краёў, дык гэтая баязьнь адразу зьнікла-б. Пэўне-ж, у малалясістых старонках практыкаваньня зьнішчэньня карчоў ня робіцца; там ня сьпілоўваюць дрэвы, а выкопваюць. У нашай старонцы да гэтага яшчэ далёка.

Ёсьць спосаб зьнішчыць карчы хутка і зусім лёгка. Сутнасьць гэтага спосабу крыецца ў тым, што пасьля зрубаньня дрэва ў астаўшымся пні робіцца дзірка глыбінёю каля 2-4 вярш. і дыямэтрам у адзін вярш. У гэную дзірку насыпаецца тая ці іншая частка натравай салетры, пасьля чаго яна шчыльна забіваецца драўляным шпунтом. Пасьля пэўнага часу салетра рассасваецца і пранікаець ня толькі ўва ўсе часткі пня, але і ў карані. Дзякуючы гэтым абставінам, калі запаліць гэты пень, дык ён хутка згараець бяз ніякае астачы, пры гэтым выгараюць таксама і карані, каторыя маглі-б памяшаць потым пры прахаджэньні па гэтым месцы земляробскіх прыладаў.

Такім чынам, калі зімой у пару рубаньня дрэваў скарыстацца апісаным спосабам і насыпаць у тыя, што асталіся, пні салетры, дык ужо да вясны бываюць гатовы для выпальваньня, каторае дзеецца дужа ня доўга. Трэба, аднак, помніць, што спосаб гэты запраўдны ў тым толькі здарэньні, калі салетра насыпаецца ў сьвежыя пні адразу пасьля зрубаньня дрэваў. Насыпаньне салетры ў прасохлыя пні не вытвараець ніякай дзейнасьці.

Колькі трэба салетры і якой велічыні мусіць быць дзірка, у якую салетра насыпаецца, — гэта залежыць ад велічыні пнёў і крапчыні іх. У вялікшыя пні трэба насыпаць яе больш, у нізкія — менш; бяроза, дуб і іншыя вымагаюць болей салетры, чымся ліпа, алешніна, асіна і г. д. Ведама, што і самая дзірка робіцца большай ці меншай у залежнасьці ад тых-жа варункаў.

*Янка Тарыкоў*

# Гірса (Bromus secalinus) і барацьба з ёю.

Найбольшаю плягаю нашых палеткаў пасьля асоту і пырніку зьяўляецца *гірса*, або як яе яшчэ завуць *„дырса“*, стаклоса жытняя — гэта трава, якая мае навуковы назоў палаціне „Bromus secalinus“ і расьце найбольш пасьля цяжкае зімы ў жыце і пшаніцы на лёгкіх і вільготных землях з непрапушчальным падгрунтам. У мокрыя гады яна зьяўляецца на палёх масамі, так што часамі некаторыя думаюць, што жыта або пшаніца перарадзілася ў гірсу.

Гірса пачынае расьці раньняю вясною і пэўны час перад цьвіценьнем яе трудна адрозьніць ад жыта або пшаніцы, дзеля чаго і выпалаць яе немагчыма. Гірса мае корань валакністы, з якога выпускае адну альбо больш ладыгаў, даўжынёю да мэтра; на ладыгах даецца заўважыць тры-пяць пакрытых валаскамі каленцаў. Доўгія, вузкія і сьпічастыя яе лісточкі гэтак сама пакрыты зьверху маленькімі валаскамі. Разложыстая і зьвіслая мяцёлка гірсы складаецца з дробных каласкоў, з якіх кожны нясе 5-10 кветак. Надворная плеўка мае колер ясна-зялёны і мае ў сабе прадаўгаватае вузкае насеньне, якое на адным баку мае ўздоўж равок.

Калі сьпячы хлеб з жыта, у якім многа ёсьць гірсы, то хлеб будзе шмат цямнейшы і гаркаваты. Пры помачы машыны-трыеру жыта ці пшаніцу можна добра ачысьціць ад гірсы, бо насеньне гірсы шмат лягчэйшае, як збожжа і даецца лёгка аддзяліць яго. Дзе завялася гірса, там абавязкова жыта, ці пшаніцу трэба раней зьбіраць з поля, пакуль насеньне гірсы зеленаватае і не выпаўнілася, тады яно лепш аддзяляецца і ня будзе заражаць поля. Насеньне збожжа добра ачышчаць, а то найлепш зьмяняць і сеяць чыстым збожжам. Калі ўсё такі вясною жыта ці пшаніца рэдкае, то вельмі добра даць тады ў сухую пагоду чылійскае салетры якіх 50 кгр. на гэктар. Ад салетры збожжа вельмі караніцца і заглушыць гірсу. Дзе завялася гірса, надта добра поле гэткае перад пасевам збожжа з восені ўгнаіць кайнітам — 300 - 400 кілё на дзесяціну. Гэта паташнае ўгнаеньне танна каштуе і вельмі добра выпальвае ўсе сьметнякі. Расьсяваць кайніт трэба з восені або пад ярыну і вясною, толькі тыдні за два-тры да сяўбы збожжа.

Трэба помніць, што насеньне гірсы, нават скормленае жывёлаю, пападае ў гной, вывозіцца ў поле і нават тады ня траціць свае здольнасьці да прарастаньня.

Гірса мае пэўную пажыву, як корм, але толькі трэба перад тым, як карміць жывёлу, перадраць насеньне гірсы ў мліне, нібы зрабіць крупы, бо толькі тады яна ператраўляецца жывёлаю і робіцца нешкадліваю для палеткаў.

*Я. Х.*

---

# Як перайсьці на хутары.

Бяз хутарнай гаспадаркі ня можа быць мовы аб паправе лёсу селяніна. Толькі хутарны спосаб гаспадараньня дае магчымасьць выкарыстаць працу, стараньне і ўмеласьць апрацоўкі зямлі.

Каб перайсьці на хутары са шнуроў, трэба знайсьці некалькі спагадных гэнай рэформе суседзяў, якія-б разам мелі 25 дзесяцін (25 ha) зямлі, незалежна ад таго, колькі зямлі мае ўся вёска, ці мястэчка і колькі там земляўласьнікаў. Закон аб пераходзе на хутары не вымагае большасьці ні галасоў, ні зямлі. Калі будзе ў вёсцы, прыкладам, 2-х гаспадароў, якія маюць разам 25 ha (бязмала 25 дзесяцін) і хочуць перайсьці на хутары, тады яны павінны ўзяць з воласьці пасьведчаньне аб тым, што зьяўляюцца ўласьнікамі 25 дзесяцін зямлі *). Гэнае пасьведчаньне разам з двума сьпіскамі далучаецца да прашэньня, якое трэба падаць Зямельнаму Камісару. Сьпіскі-ж маюць быць такія: 1) Сьпісак асобаў, якія хочуць правядзеньня хутарнае рэформы і 2) Сьпісак усіх земляўласьнікаў у вёсцы—(форма падаецца). Зрабіўшы гэта, пішацца просьба да Зямельнага Камісара таго павету, дзе знаходзіцца вёска, ў якой жывуць сяляне, што хочуць перайсьці на хутары.

Просьба не падлягае гэрбавай аплаце, як і ўсе заявы, складаныя да ўрадовых установаў *у справе хутароў* (комасацыі). Просьбу трэба падпісваць у прысутнасьці войта ў воласьці, бо войт мае пасьведчыць уласнаручнасьць подпісаў. За такое пасьведчаньне ў воласьці ня могуць браць ніякае аплаты.

Калі гэта ўсё зроблена, трэба дастаць ад солтыса плян надзельнае вясковае зямлі (калі такі ёсьць у вёсцы) і разам з просьбай завязьці яго Зямельнаму Камісару. У канцэлярыі Камісара аб прыняцьці просьбы і пляну маюць выдаць расьпіску, якая патрэбна дзеля таго, каб быў доказ, дзе знаходзіцца плян, а ён для вёскі мае значэньне. Калі-ж пляну вёска ня мае, ці яго нельга дастаць, дык трэба ў просьбе (заяве) напісаць, што пляну няма.

Ад гэтага часу лічыцца, што ўлада, якая даведалася аб просьбе сялян скасаваць шнуры ў сваіх землях, будзе вясьці справу комасацыі, хоць часта Зямельны Камісар ня можа адразу прыбыць у вёску дзеля няхвату часу. Аднак, як толькі прыйдзе пара, Зямельны Камісар прыедзе ў вёску, каб асабіста сьцьвярдзіць, ці подпісы на просьбе ўласнаручныя і ці падпісаўшыя зьяўляюцца поўналетнімі і ўласьнікамі зямлі. Падпісваць заяву павінны толькі ўласьнікі—бацька пры дзецях напр., а калі ён няграматны, дык сын можа падпісаць за яго, як няграматнага. Ня можа падпісаць арэндатар, а толькі ўласьнік.

Спраўдзіўшы подпісы і апытаўшы, ці падпісаўшыя хочуць хутароў і ці яны маюць 25 дзесяцін зямлі (25 ha), Камісар абʼяўляе на сельскім сходзе, што ён прыступае да комасацыі грунтаў вёскі Х. Ніякія пратэсты нічога ня значаць, бо большасьці галасоў закон не вымагае. Зямельны Камісар робіць малы плян вясковай зямлі з паказаньнем граніц, прыгатаўляе матарʼял і перасылае яго ў Акружны Зямельны Ўрад, (для Віленскага ваяводзтва ў Вільні, для Навагрудзкага ў Горадне, для Беластоцкага ў Беластоку), які вызывае падпісаўшых заяву і зацьвярджае комасацыйную прапазыцыю Камісара. Пасьля месячнага сроку ад дня гэнае пастановы Зямельны Камісар паведамляе падпісаўшых заяву і солтыса, што вёска будзе пераводзіцца на хутары, дзеля чаго сяляне (усе разам з усяе вёскі) маюць вы-

*) Такое пасьведчаньне не аплачваецца гэрбавым зборам, калі на ім будзе абазначана, што выдаецца дзеля пераходу на хутары.

браць Хутарную Раду (Radę Scaleniową) ў ліку ад 3 да 5 асобаў. Выбар Хутарнае Рады зьяўляецца вельмі важнай дзейнасьцяй у справе пераходу на хутары дзеля таго, што гэная Рада мае вялікія правы і яна цалком вырашае ўсе справы пры выкананьні вымеру каморнікам (землямерам) пры ацэнцы зямлі і нарэзцы на хутары. Сяляне павінны добра застанавіцца пры выбарах і выбраць людзей чэсных і разумных. Калі-б ня было згоды на выбарах, Хутарную Раду вызначае Зямельны Камісар. Далей Хутарная Рада годзіць каморніка, які вядзе памер зямлі і парэзку на хутары. Казённых каморнікаў, якія-б рабілі памеры на кошт скарбу, няма, дзеля чаго Хутарная Рада павінна сама падпісаць дагавор з каморнікам і старацца не пераплаціць. Цяпер кошт парэзкі такі: ад 12 да 17 злотых ад дзесяціны, калі-ж каморніка дасьць Акружны Зямельны Ўрад, тады прыдзецца плаціць па 20 — 25 зл. за дзесяціну. Работнікаў пры памерах дае сяло, але іх мала і гэта ня цяжкая павіннасьць. Вёска, апрача кватэры і грошай ад дзесяціны, нічога больш каморніку ня плаціць. Каб знайсьці добрага каморніка, трэба даведвацца ў гаспадарчых арганізацыях і ў рэдакцыях часопісаў. Падпісваючы дагавор з каморнікам, трэба абавязкова ўставіць пункт, у якім-бы каморнік абавязваўся правясьці памер і закончыць парэзку на хутары да жніўня месяца, інакш сяляне не ўсьпяваюць прыгатовіць поле пад засеў азіміны і маюць дзеля гэтага страты. *Саўліч.*

Форма заявы Зямельнаму Камісару.

Да Пана Зямельнага Камісара ў ..................
Жыхароў вёскі ..................
.................. павету ..................
.................. воласьці.

ЗАЯВА

Далучаючы: 1) пасьведчаньне воласьці аб тым, колькі зямлі маем на праве ўласнасьці, 2) сьпісак сялян. якія хочуць перайсьці на хутары і 3) сьпісак земляўласьнікаў вёскі .................., просім Пана Зямельнага Камісара прыступіць да комасацыі грунтаў вёскі ..................
.................. воласьці.

в. ..................
дня .................. г.

*Подпісы:* (падпісваюць усе, хто просіць і хоча хутароў, за нягараматных падпісваюць граматныя).

СЬПІСАК

асобаў, якія жадаюць пераходу на хутары, вёскі ..................

| Парад. № | Прозьвішча і імя | Колькі мае зямлі | Увагі |
|---|---|---|---|
| 1 | Дзьмітрук Кузьма . . | 12 десяцін | |
| 2 | Казлоўскі Адам . . . . | 10 „ | |
| 3 | Антановіча Міхала насьледнікі (Янка і Ганна) | 5 „ | |
| 4 | . . . . . . . . . . . | | |
| 5 | . . . . . . . . . . . | | |
| | Разам . . | 27 дзесяцін | |

Гэты сьпісак падпісваюць усе азначаныя на сьпіску і іх подпісы сьцьвярджае войт.

СЬПІСАК

уласьнікаў зямлі вёскі .................., павету ..................

| Парад. кавы № | Прозьвішча і імя | Колькі мае зямлі | Дзе пражывае |
|---|---|---|---|
| 1 | Дзьмітрук Кузьма | 5 десяц. | вёска Крыстаўка |
| 2 | Казлоўскі Адам . | 10 „ | „ „ |
| 3 | Марцінчык Сьцяпан | 12 „ | „ „ |
| 4 | Федароўскі Мікалай | 10 „ | „ „ |
| 5 | Грыц Антон . . . | 6 „ | вёска Волька |

Сьпісак гэты падпісвае нехта адзін, пасьведчаньня войта ня трэба.

# ПЧАЛЯРСТВА.

## Дагляд пчолак на зіму.

Пчолкі, як і ўсякія іншыя жывёліны, дзеля таго, каб быць добрымі і моцна мецца, мусяць карыстацца вельмі руплівым даглядам, а лясьне на зіму, з боку свайго гаспадара. Бо чым ляпей ён іх дагледзіць, на зіму, тым ляпей яны перазімуюць, што вельмі вялікую вагу маець вясною, дзеля таго, што такія пчолкі ўжо з самае раньняе вясны, бяруцца рупліва да працы, калі-ж яны марна перазімавалі, дык і найлепшы час вясны прайдзе для іх, а лясьне для пчаляра, без карысьці, ён змарнуецца на папраўку пчолак з сіламі, і на тое, каб хаця як-небудзь пракарміць сябе. Вот-жа ўся ўвага пчаляра і павінна быць зьвернута на тое, каб пчолак якнайляпей дагледзець на зіму.

Дзеля гэтага, практычны пчаляр павінен мець на воку гэткія, як-бы іх назваць, прыкметы: 1) лішку запячатаванага мёду, 2) добрыя праходы зімою паміж вузою, 3) вялікую колькасьць маладых пчолак і пладавітую матку, 4) добрае праветраваньне, толькі не скразьнікам.

Прыступіць да агляду пчолак на зіму пчаляр павінен ужо ў палове верасьня. Ён павінен рупліва аглядзець кожны вулей, і аглядзець, у якім ён знаходзіцца палажэньні. Калі ён пчолак да таго часу падкормліваў, дзеля вываду дзеткі, то цяпер ён павінен гэта пакінуць так, каб да надходу халадоў пчолкі маглі запячатаць той мёд, які ў іх ёсьць незапячатаваны. У вульлі на зіму пчаляр, гледзячы, павінен пакінуць каля 33-х фунтаў мёду і то запячатаванага, не запячатаваны мёд трэба выкруціць цэнтрафугаю, бо іначай не ў запячатаваных чарачках знойдзецца вадзяністая жыжка, ад якое пчолкі, ядучы яе зімою, могуць дастаць згубнае хваробы для іх—ляскаўкі. Калі ў якім-нібудзь вульлі знойдзецца лішка мёду, то трэба яго забраць і перанясьці ў той вулей, дзе яго не хапае.

Вузу, якая не занята пчолкамі, трэба гэтак сама дастаць з абодвух бакоў і давясьці гняздо да гэткіх разьмераў, каб пчолы маглі яго ўсё заняць і густа пакрыць сабою ўсю вузу. Калі ў рамовых вульлёх можна густа пакрыць пчолкамі восем рамак, то гэтых рамак зусім даволі пчолкам на зіму, бо і мёду ў іх хваце, разумеецца, як яны ім запоўнены. Рамкі-ж трэба разьмяшчаць у адступах аднолькавых цалі, адна ад адное, а гэта дзеля таго, каб пчолкі мелі свабодна лазіць паміж іх і каб ня душыліся. Вуза сярэдная, г. зн. сярэднія рамкі, звычайна адводзяцца пад дзетку, а па баках ставяцца рамкі з мёдам. Пчолкі звычайна тоўпяцца каля сярэдніх рамак, дзеля гэтага бакавыя рамкі, залітыя напалавіну мёдам, трэба перастаўляць у сярэдзіну, так каб знаходзіліся бліжэй да пчолак. Добры пчаляр павінен памятаць і аб тым, каб даць пчолкам магчымасьць хадзіць па мёд і на другія рамкі, калі ў іх ня хопіць мёду на сваіх, дзеля гэтага ў кожнай рамцы ён павінен зрабіць дзірку ў вузе меней-болей пасярэдзіне рамкі шырынёю ў адну цалю, бо калі пчолкі не будуць мець гэтага праходу, то яны мусіць будуць спаўзаць аж на ніз, дзе могуць зьмерзнуць і гэтак паволі адпадаць. Зьверху рамкі пакрываюцца тоненькаю дошчачкаю, альбо палатном, не пасярэдня на рамкі, але

ў гэткім адступе ад іх, які можна зрабіць, калі мы падложым пад дошчачку дзьве папярэчкі, па бакох; гэта робіцца дзеля таго, каб пчолкі маглі прахадзіць па версе рамак. Зьверху на дошчачку кладзём падушку, выпханую кастрыцаю, пакульлем, альбо мякінаю. Асабліва добрыя падушкі можна рабіць гэтак: узяць скрынку бяз дна з аднаго і другога боку, глыбінёю чатыры цалі. Скрынка гэтая павінна мець разьмер верху вульля. Вот-жа забіваем адно дно палатном, набіваем потым добра мякінаю і ізноў забіваем палатном. Гэтак зробленая падушка надта карысная, бо абараняе пчолак ад скразьніку і разам з тым не перашкаджае свабоднаму доступу паветра. Пры рабленьні гэткае падушкі і наагул кожнае падушкі ня трэба забывацца аб тым, што нам прыдзецца пчолкі падкормліваць вясною, а дзеля гэтага трэба памятаць, каб пакінуць у сярэдзіне падушкі атвор, велічынёю ў пяць, ці ў шэсьць цаляў, так, каб у яго мог улезьці звычайны слоік. Атвор гэты на зіму затыкаецца затычкаю, зробленаю з палатна і з мякіны. Далей, трэба ўставіць падушку, толькі ўжо без атвору, і ў сярэдзіне вульля, гэта знача паміж рамкамі і аднэй сьценкай, потым усё большае месца трэба запхаць мятаю саломаю; гэтак падрыхтованы вулей будзе дзяржаць роўную тэмпэратуру ў сярэдзіне і дзеля гэтага болей будзе адпорны на маразы. Усе гэтыя прыгатаўленьні павінны быць скончаны ў пачатках кастрычніка.

Як сьнег ужо пакрые зямлю, трэба лятох чым-небудзь прыкрыць, а гэта дзеля таго, каб праменьні сонца ня падалі проста ў лятох і не дражнілі пчолак да вылёту, бо як яны выляцяць, то на дварэ ад марозу замярзаюць і гэтак мінтрэжацца. У канцы лютага, калі пазваляець пагода, трэба аглядзець пчолак у вульлі; падняць лёгенька накрыўку і зяглянуць у гнязда. Бо часам здараецца, што ўжо ў гэты час у пчолак няма мёду, дзеля гэтага трэба старацца іх падкарміць цераз пакінены атвор у верхняй падушцы (як гэта робіцца, я скажу потым у „кармленьні пчолак“), а цяпер спамяну толькі аб тым, што цяплыня ў вульлі залежыць ад колькасьці пчолак і ад зьедзенага імі мёду, г. зн. чым болей пчолкі будуць есьці мёду, тым цяплей ім будзе і тым лепш яны перазімуюць. Трэба не забывацца пчаляру аглядаць часта ляткі і выграбаць адтуль памёршых у вульлі пчолак, бо калі гэткіх пчолак многа зьбярэцца ў лятку, то яны могуць запыніць праход сьвежага паветра ў вулей і гэтак згубіць усю сям'ю, якая можа задушыцца ў вульлі.

Гэтак прадстаўляецца дагляд пчолак і зімоўка іх у рамовым вульлі, і тады, калі вульлі гэтыя зімуюць там, дзе яны стаяць, г. зн. на дварэ. Гэты спосаб зімоўкі пчолак на дварэ і водзіцца ў нас найболей.

Ёсьць другі спосаб зімоўкі пчолак, які практыкуецца ў іншых народаў; гэта зімоўка пчолак у „амшаніках“.

Гэты спосаб зімоўкі пчолак у амшаніках, зьяўляецца вельмі выгадным для кожнага пчаляра.

Па-першае, ён можа мець болей надзеі, што пчолы яго перазімуюць усе і ўсе добра будуць чуцца пасьля зімы; па-другое, пры гэткай зімоўцы пчолкі многа меней патрабуюць мёду на ежу, бо ім цяплей і грэцца яны ежаю не патрабуюць.

Амшанік можа прадстаўляць з сябе альбо звычайную будыніну, толькі цёмную, добра агледжаную і цёплую, альбо будыніну наўмысьня дзеля таго збудованую. У тым другім выпадку, калі хто наўмысьня робіць амшанік, то павінен рабіць яго з некаторымі ўляпшэньнямі, а ласьне павінен рабіць яго ў дзьве сьценкі, пустое месца, паміж якіх павінен запхаць саломаю, альбо кастрыцаю, дзеля таго, што гэтак зроблены амшанік не патрабуець апалу, што, як ведама, трохі каштуець. Вульлі ў амшаніку ставяць у некалькі радоў, у пэўных ад сябе адступах, а гэта дзеля таго, каб можна было каля іх хадзіць; трэба толькі памятаць аб тым, што пры хаджэньні каля пчолак зімою, ня трэба ніколі стукаць; і то ня толькі ў амшаніках, але і тады, калі пчолкі зімуюць на дварэ, бо ў такім выпадку пчолкі пачынаюць заўсёды жыва есьці мёд, што можа вызваць ў іх ляскаўку, а за гэтым і іх згубу. Сказаў я тут аб зімоўцы пчолак у рамовых вульлёх. Дзеля таго-ж, што ў нас, на Беларусі, яшчэ зусім мала водзяць пчолак у рамовых вульлёх, а найболей водзяць іх у калодах, дык і аб зімоўцы гэтых апошніх лічу сваім абавязкам сказаць. Вот жа гэта зімоўка ў калодах зьяўляецца зусім простаю. Перш за ўсё трэба гнязда ў пчолак падрэзаць, г. зн. забраць лішні мёд, пакідаючы толькі столькі мёду, колькі лічым патрэбным пчолкам на зіму. Потым трэба добранька і чысьценька вымясьці вулей у нагах і запхнуць туды салому, каб ня было вольнага месца. Далей, трэба ўсе дзіркі і шчыліны замазаць добра гліною, пакідаючы, разумеецца, праход для паветра (дзеля гэтага, у большасьці выпадкаў, пакідаецца вочка), і вулей на зіму гатовы. Калоды гэтак сама могуць зімаваць на дварэ і ў амшаніках, хаця, у апошнім выпадку, з імі вельмі трудна саўладаць. *Пчаляр.*

# Гаспадарчыя парады.

## Перахоўваньне капусты зімой.

Капуста ў стане зялёным добра перахоўваецца ў сухім паграбе. Дзеля гэтага ў паграбе разьвешваецца дрот, так, як шнуры да вешаньня порця. На разьвешаных дротах вешаюцца галоўкі капусты за качаны такім спосабам, каб галоўка да галоўкі не датыкала. Пры гэтым трэба лічыць, каб да перахоўваньня браць галоўкі капусты зусім здаровыя, не абдрапаныя, без абламаных лісьцяў. Вонкавыя, зялёныя лісты павінны быць добра захованы, як абарона ўнутраных белых лісьцяў.

У торфе можа быць капуста добра захована. Да гэтага трэба ўжываць зусім *сухога торфу*, найлепей бранзовага, валакністна. На дно скрынкі сыплецца торфу на 10 см. груба, і галоўкі капусты бязумоўна з вонкавымі зялёнымі лісьцямі укладаецца качанамі дагары, так, каб яны ня стыкаліся. Уложаныя галоўкі перасыпаюцца торфам. Скрыню трэба ўмясьціць у сухім месцы, бясьпечным ад марозу ў паграбе. Так перахованая капуста можа датрываць да мая месяца.

**Прачытаўшы газэту, перадай суседу!**

### Што найгорш уплывае на якасьць малака?

Перш за ўсё шкодзіць нечыстата. Калі доім брудных кароў, у брудным хляве, бруднымі рукамі, ці цэдзім малако праз брудны цадзілак, то малако загразьняецца і траціць сваю якасьць.

У малаку добра жывуць розныя бактэрыі, што выклікаюць хваробы ў людзей (сухоты, тыфус і г. д.).

Нячыстае малако хутка псуецца і не надаецца да вырабу з яго масла і сыраў. Вось чаму трэба прадукаваць малако толькі чыстае. Гэта ня цяжка зрабіць. Трэба толькі трымаць хлеў у чыстаце, праветраваць яго і даваць чысты падсьціл. Перад даеньнем трэба мыць вымя чыстаю вадою.

### Уплыў бугая на малочнасьць прыплоду.

Колькасьць жыру ў малаку — гэта асаблівасьць больш расовая, якая пераходзіць і на прыплод.

Перадае яе на патомства бугай, а таму трэба заўсёды выбіраць бугая, які паходзіць ад добрае каровы.

У практыцы гэта мае вялікае значэньне, бо, адпаведна дабіраючы бугая, можна збольшыць колькасьць жыру ў кароў.

У іншых краёх гэты досьлед даўно скарысталі, і нашым гаспадаром таксама трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу.

### Які ўкос канюшыны пакідаць на насеньне.

На насеньне трэба пакідаць другі ўкос.

Першы раз трэба касіць, як толькі канюшына зацьвіце. Ня можна спазьніцца так, каб канюшына адцьвіла і пачала завязваць насеньне, бо тады аслабім другі ўкос і насеньне будзе горшае.

Калі-ж пакінем на насеньне першы ўкос, то другі ўкос будзе зусім слабы.

## Гігіенічна-ратаунічы аддзел.

### Чад.

Наша паветра складаецца з мешаніны газаў. Найбольш у паветры азоту ($^3/_4$) і тлену (каля $^1/_4$). З іншых газаў досі важнае значэньне мае вуглік тлену. Калі што-нібудзь гарыць, то гэта тлен лучыцца з гэтым гарушчым целам. Пасьля таго, як цела згарыць, адтрымліваем новы газ: вуглік тлену. Але не заўсёды досыць сьвежага паветра даходзіць да агню і тады паўстае ня вуглік тлену, а іншы газ, які мы называем *чадам*. Дужа дробныя колькасьці чаду ужо шкодны для чалавека, але выкрыць чад ня лёгка, бо гэты газ ня маець паху, а калі мы кажам, што чуем чад, то гэты пах паходзіць ад дробных дамешак іншых газаў, нявраз зусім няшкодных. Чад трымаецца каля зямлі, а калі запалім запалку і апусьцім да падлогі, те яна гасьнець, але толькі тады, калі газу ўжо сабралася шмат. Каб чалавек мог жыць, яму таксама неабходны тлен, інакш чалавек задушыцца. Тлен з паветрам пераходзіць у лёгкія, там яго забіраець кроў і разносіць па ўсім целе. У целе нашым адбываецца таксама гарэньне, згараюць прадукты ежы, толькі ня так шыбка, як на агні і ад гэтага гарэньня маем цяплыню нашага цела, а выдыхаем вуглік тлену. Калі разам з паветрам у лёгкія праходзіць чад, нават у дробнай колькасьці, то кроў моцна лучыцца—вяжацца з чадам і траціць здольнасьць забіраць з паветра і разносіць па целе тлен. За кожным уздохам, усё больш і больш атручваецца крыві, тлену даходзіць усё менш, галава пачынаець балець, у вушох шуміць, чалавек траціць прытомнасьць і ўрэшце ўміраець, удушаны. Каб пазнаць ці чалавек атруціўся чадам, ці проста задохся з іншае прычыны, бяруць кроў з вэнаў (жылы, што вядуць кроў да сэрца). Калі чалавек так задохся, то кроў у вэнах цёмнага сіняватага колеру, аж да чорнай адцені. Калі атруціўся чадам, то яна ясна чырвоная, як у артэрыях (жылы, што вядуць кроў ад сэрца). Для першага ратунку трэба чалавека вынясьці з чаднага памешканьня, найлепш, калі цёпла, то на сьвежае паветра, а калі зіма, або так сьцюдзена, то ў другую, нячадную хату. Трэба расшпільць чалавеку рубашку на грудзёх, зьняць пояс і наагул парасшпільваць усю вопратку, дзе толькі можна, каб нідзе яна ня была цеснаю і каб паветра ўсюдых свабодна даходзіла, бо чалавек дыхаець так сама і скураю. Затым палажыць чалавека, і то націскаць, то адпускаць, толькі не замоцна, ў ваколіцы жывата, дзе канчаюцца скабы, каб паветра то ўходзіла ў грудзі няпрытомнаму, то выходзіла. Кожны няхай на сабе загадзя спрабуець рабіць гэтае, так званае, штучнае дыханьне. Цела хворага, каб ня зябла, можна расьціраць і прыстаўляць да падошваў бутэлькі з добра цёплаю вадою, а на галаў класьці ганучу, добра намочаную ў цёплую ваду, толькі каб не адпарыць галавы. Як толькі чалавек прыдзець да сябе, можна даць яму кіслага малака. Калі чалавек сам заўважыць, што ўчадзеў (баліць галава, млосна, або шуміць у вушох, кружыцца галава) найлепшы лек, — гэта праветрыць хату, расчыніўшы насьцеж дзьверы, а самому пайсьці на сьвежае паветра, на гадзіну-другую. З пачатку, на сьвежым паветры, можа зрабіцца чалавеку, як-бы горай, але гэта толькі часова. Чад у нас найчасьцей бываець, або ад таго, што зачыняць юшку, пакуль яшчэ ходзяць па вуглёх сінія агоньчыкі, (гэта згараець чад), або там, дзе праведзены па трубах сьвяцільны газ. Калі гэты газ дзеля чаго-нібудзь прарываецца на хату, то людзі так сама затручваюцца, бо сьвяцільны газ маець у сабе пэўную колькасьць чаду. *Я. П.*

## БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА.

### Беларускі Народны Тэатр.

Беларускі Народны Тэатр Інстытуту Гаспадаркі і Культуры выставіў дня 23 кастрычніка, па папярэдняй сваёй рэарганізацыі, спэктакль у Вільні. Ставілі „Паўлінку“. Выступаў хор, а спэктакль скончыўся народнымі танцамі. Наагулжа прысутныя вынясьлі добрае ўражаньне. На спэктаклі было шмат публікі. Пажадана было-б ставіць спэктаклі ў Вільні часьцей.

### Беларускі спэктакль.

У мінулую суботу 29 кастрычніка Навасьвецкі Гурток Т-ва Беларускае Школы, ставіў у памешканьні Т-ва Беларускае Школы пры вул. Св. Ганны 2-гі спэктакль. Адыграна была аднактоўка „Яе трэба паказаць дохтару“. Па прадстаўленьні адбыліся вокальна - музыкальныя прадукцыі і танцы.

### Календар „Маланкі“.

Рэдакцыя „Маланкі“, беларускага гумарыстычнага часопісу, выдае у г. г. свой уласны кніжкавы календар. Зьмест календара мае быць надта цікаўны.

### Лекцыі ў Т-ве Беларускае Школы.

Як у леташнім годзе, так і сёлета Т-ва Беларускае Школы арганізуе, штосуботы лекцыі ў памешканьні Т-ва Беларускае Школы. Першая лекцыя адбылася 15 кастрычніка. Лекцыю чытаў грам. А. Трэпка на тэму „Радыё“. Наступная лекцыя ў суботу 29 кастрычніка.

# Апошнія навіны.

**Францыя.** Трыбунал прысяжных судзьдзяў у Парыжы апраўдаў Шварцбарда, забойцу атамана Пэтлюры.

**Англія.** Лёрд Цэціль, які зрокся мандату прадстаўніка Англіі ў Лізе Народаў, ня годзячыся з палітыкай ураду аб разбраеньні, публічна выступіў з прамовай, у якой заклікаў да разбраеньня, кажучы, што цяперашняя палітыка вядзе да новай вайны. Ён падкрэсьліў, што без узаемнага разбраеньня ўсіх дзяржаваў не магчыма пацыфікацыя сьвету.

**Нямеччына.** Нямецкая рада міністраў на першым з наступных паседжаньняў мае заняцца польска-нямецкім гандлёвым дагаворам.

Нямецкія прамысловыя і гандлёвыя колы адчуваюць востра брак унармаваньня гандлёвых зносін з Польшчай. Польшча таксама патрабуе ўнармаваньня зносін з Нямеччынай.

**Літва.** Рэпрэсіі ўраду ня скончыліся. Апошнімі днямі ваенны палявы суд вынес прыгавар сьмерці на аднаго з павадыроў літоўскае соцыяль-дэмакратычнае партыі Мажэйку.

Францыя і Англія за пасярэдніцтвам сваіх прадстаўнікоў у Коўне, як быццам стараліся скланіць літоўскі ўрад вярнуць сваю скаргу на польскі ўрад за апошнія рэпрэсіі, паданую як ведама, ў Лігу Народаў.

**Латвія.** Латвійскі Сойм невялікаю большасьцяй ратыфікаваў латвійска-савецкі гандлёвы дагавор.

**Польшча.** Прэзыдэнт рэспублікі склікаў на 31 кастрычніка г. г. буджэтовую сэсію Сойму. Маршалак Сойму скліча Сойм на 2 ці 3 лістапада. Сойм мае заняцца буджэтам на 1928 год. Калі-б Сойм працаваў над буджэтам і яго зацьвярдзіў, ён датрываў-бы да канца свае сэсіі. Калі-б Сойм заняўся іншымі справамі, да разгляду якіх урад не хацеў-бы дапусьціць, дык урад Сойм распусьціць і вызначыць новыя выбары. Ці так, ці інакш выбары недалёкія.

### Страшная катастрофа на моры.

Вялікі параход, які плыў з Гэнуі ў Бразылію, затануў каля берагоў Бачыа. На параходзе знаходзілася 1300 падарожных, пераважна эмігрантаў, якія ехалі шукаць працы ў Бразыліі. Іншыя параходы, якія пасьпяшылі на ратунак, здолалі ўратаваць 400 асоб. Быць можа, што лік уратованых большы. Аднак, пэўным ёсьць, што большая частка падарожных затанула.

# Аб усім патроху.

### Спозьненая спадчына.

Стары 75-ць гадовы шавец, які жыве ў невялікім чэскім мястэчку, раптоўна зрабіўся мільянэрам. 20 гадоў назад выехаў у Амэрыку яго сын, аб якім праз увесь час нічога ня было чуваць. Як ужо пазьней аказалася, ён нажыў у Злучаных Штатах вялікую маемасьць. Некалькі тыдняў назад ён стаў ахвяраю бандыцкага нападу. Дзеля таго, што на месцы ніякіх сваякоў забітага ня было, дык спадчына па ім на суму 1.200.000 даляраў выпала на долю старога бацькі ў Чэхіі, які, адтрымаўшы гэтую вестку, заявіў: „На што-ж мне цяпер прыдадуцца грошы, калі я ўсё жыцьцё сваё галадаваў“.

### Цікавы загад.

У кітайскай краіне Гарнан улады выдалі загад, каб усе дзяўчаты выйшлі замуж. Калі каторая з іх да вызначанага тэрміну не знайдзе сабе мужа, дык ён будзе для яе вызначаны ўрадова.

Шмат якія з нашых дзяўчат таксама хіба рады былі-б ад гэткага загаду!

### Доўгавечнасьць беларусаў.

Менская газэта „Зьвязда“ падае на сваіх шпальтах цікавую статыстыку жыхароў Савецкае Беларусі з паказаньнем, колькі кожнаму з іх гадоў. З гэтае статыстыкі відаць, што там ёсьць 1413 чалавек, якія маюць па больш, як 100 гадоў веку.

### Наша сэрца.

Самая лепшая машына ня можа працаваць без перапынкаў, патрэбных для таго, каб перачысьціць і адрэмантаваць яе. Але ёсьць машына, якая працуе без перапынку, якой непатрэбен рамонт, часам сто і нават больш гадоў. Гэта машына — наша сэрца. Мы ўявіць сабе ня можам, якая вялізарная ў яго праца: а тымчасам сэрца, нясучы на сабе ролю мотору і помпы, робіць больш 100.000 удараў у дзень, каля 70.000.000 у год; калі лічыць чалавечае жыцьцё за 76 год, сэрца пасьпявае за гэты час зрабіць больш як 5.000.000.000 удараў.

Сэрца чалавека, якое не заважыць і аднаго фунта (каля 300 грамаў) зьяўляецца моцнай помпай: яно пераганяе ў лёгкія пры кожным удары толькі каля 100 грамаў крыві, у дзень гэта складае каля 10.000, у год 3,5 мільёнаў і ў 76 год больш 250 мільёнаў кілёграмаў важкасьці.

Гэтыя лічбы мала кажуць розуму: але яны скажуць многа, калі мы падлічым на вагоны: за адзін дзень сэрца пераганяе каля $^2/_3$ вагона, за год — 210 вагонаў, за 75 год—больш як 15 тысяч вагонаў ці 300 цягнікоў па 50 вагонаў кожны.

## ПІСЬМО Ў РЭДАКЦЫЮ.

У часопісі „Наша Праца" № 1 была зьмешчана заметка аб выключэньні мяне з ліку сяброў Т-ва Бел. Школы. Гэтым заяўляю, што я сябрам Т-ва Бел. Школы ніколі ня быў і нават аб існаваньні гэтага Таварыства ў Баранавічах ня чуў. *Ф. Цяўлоўскі.*

23.X.27 г.

## ПАШТОВАЯ СКРЫНКА.

**Я. Гарылычак.** Карэспондэнцыі ня зьмесьцім. Нічога ня зробіш, калі забаронена, ня трэба садзіць.

**Г. Карбутоўскі.** Зьвярнецеся да Акружнога Зямельнага Ураду (Okręgowy Urząd Ziemski). Выслалі вам пісьмо з парадай.

**П. Якубчык.** Зьвярнецеся ў сваёй справе да Instytutu Gospodarki Wiejskiej w Puławach. Паслалі Вам пісьмо з парадай.

**Забельскі.** Выслалі пісьмо з інфармацыямі, як і дзе можна купляць фруктавыя дрэўкі.

**Рыбчынскі.** Вашы поэтыцкія творы вельмі слабыя, да друку не падойдуць.

**Ш. Родны і Селянін з Ваўкавыскага павету.** Прышлеце свой дакладны адрэс.



Рэдактар-выдавец **Ф. Умястоўскі.** — Druk Józefa Zawadzkiego w Wilnie, вул. Сьв. Анны 3.